DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (14) СТУДЗЕНЬ 2003 г.

## 150

## СТАНІСЛАЎ НАРБУТ

### 4 мая 1853 - 11 сакавіка 1926

Партрэт Станіслава Нарбута. Мастак Уладзімір Кандрусевіч. Менск. 2002.

**4 мая 2003 г.** - *150-я гадавіна з дня нараджэння легендарнага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута (1853-1926). С.Нарбут з"яўляецца адной з найбольш адметных і яскравых постацей у гісторыі Браслава і ўсяго рэгіёна. Таленавіты спецыяліст, гуманіст, актыўны грамадскі дзеяч, патрыёт Браслаўшчыны і Бацькаўшчыны, жыццялюб, аматар гумару, прыгожага пісьменства і тэатру, шчыры хрысціянін ён пакінуў глыбокі след у памяці людзей. Лекар быў ушанаваны і ўганараваны яшчэ пры жыцці, а пасля смерці ўрачыста пахаваны на Замкавай Гары. Велічны помнік, што пануе над браслаўскім наваколлем - адзін з сімвалаў горада.*

*Хацелася б каб юбілей славутага лекара быў адзначаны як мага шырэй. Але ёсць сумненні што так будзе - занадта мы ўсе раз"яднаныя, мы не склаліся ў грамаду не толькі на дзяржаўным узроўні, але і на рэгіянальным. Дарэчы, у гэтым адна з прычынаў нашых бедаў і блуканняў апошняга часу.*

*Такія постаці як Станіслаў Нарбут заклікаюць аб"ядноўвацца нас на грунце агульначалавечых хрысціянскіх каштоўнасцей. Толькі ці хочам мы яднацца?*

*Будзем імкнуцца каб належным чынам адзначыць юбілей. Музей плануе абнавіць экспазіцыю вітрыны, прысвечанай С.Нарбуту, наладзіць юбілейную выставу, на пачатак мая запланавана навукова-краязнаўчая канферэнцыя, па ініцыятыве музея Міністэрства сувязі выпусціць спецыяльны мастацкі канверт. Нарбутаўскія матэрыялы будуць пастаянна з"яўляцца на старонках «Павета».*

*Увогуле, можна зрабіць шмат яшчэ чаго, але калі неабыякавых людзей будзе болей. Далучайцеся!*

# ВЕСТКІ

6 снежня адбылася сустрэча супрацоўнікаў Браслаўскага музейнага аб'яднання з вядомымі беларускімі мастакамі Георгіем і Наталляй Паплаўскімі, у творчасці якіх Браслаўшчына займае адно з галоўных месцаў. Сустрэча адбылася ў творчай майстэрні мастакоў у Мінску. Размова ішла аб далейшым супрацоўніцтве. Супрацоўніцтву паміж музеем і мастакамі больш за 15 гадоў. За гэтыя гады яно было вельмі плённым: арганізавана шэраг выстаў, фонды музея маюць даволі значную падборку прац Паплаўскіх. Напрыканцы сустрэчы Георгій Паплаўскі падараваў музею тры карціны.



18 снежня Браслаў наведалі беларускія літаратары: Леанід Дранько-Майсюк, Зіновій Прыгодзіч. Адбыліся дзве сустрэчы з чытачамі. Першай аўдыторыяй былі супрацоўнікі бібліятэчнай сеткі Браслаўшчыны, другую склалі вучні старэйшых класаў і настаўнікі гарадскіх школ. Арганізатарамі сустрэч выступілі цэнтральная раённая бібліятэка і выдавецтва "Кніга", прадстаўленае на сустрэчах намеснікам галоўнага рэдактара Людмілай Несцяровіч. Прайшла прэзентацыя-продаж навінак выдавецтва.



Да Калядных святаў Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей падрыхтаваў выставу "Святое Раство – людзям прыгаство". На ёй прадстаўлены каталіцкія і праваслаўныя абрады, сюжэты якіх звязаны з Божым нараджэннем, выявамі Маці Божай з немаўляткам Хрыстом. Выстава аздоблена каляровымі паштоўкамі пачатку XX стагоддзя, маркамі, ёлачнымі цацкамі, працамі народных майстроў. Музей традыцыйнай культуры пачаў працу над афармленнем выставы "Калядныя ўзоры", якая праводзіцца штогод. Яе ўрачыстае адкрыццё пройдзе напярэдадні каталіцкіх Каляд.



20 снежня ў Музеі традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы народнага мастацтва "Калядныя ўзоры". Штогод народныя майстры Браслаўшчыны рыхтуюць на "Калядныя ўзоры" лепшыя творы. Многія з іх тэматычна звязаны з Калядамі і Навагоднімі святамі. Гэтым разам экспануюцца творы больш чым 20 майстроў. Багата прадстаўлены саломапляценне, вырабы з гліны, бяросты, лазы. Тэатралізаванае прадстаўленне перад прысутнымі паказалі дзеці – удзельнікі гурткоў, якія працуюць пры Музеі традыцыйнай культуры.



Напрыканцы снежня пабачылі свет чарговыя нумары моладзевага выдання "Гэта – мы!", газеты Барунскай школы "Школьны час", першы нумар газеты Браслаўскай гімназіі "Magister".

***Шуфляда***

***У папярэднім нумары «Павета» мы прапанавалі ўвазе чытача раздзел з падрыхтаванай да друку кніжкі «Браслаўшчына. Прырода і чалавек». Раздзел называўся «Прырода супраць чалавека». Цяпер мы друкуем раздзел у якім прыводзяцца факты негатыўнага ўздзеяння чалавечай дзейнасці на прыроду Браслаўшчыны.***




Бераг возера Дрысвяты, аблытаны [illegible] пач.20-х гадоў.

Уздзеянне чалавека на прыроду ўвесь час узрастае. Сляды гэтага ўздзеяння добра бачны і на Браслаўшчыне, хаця шмат хто лічыць яе краем захаванай прыроды. У XX стагоддзі азёрны край зведаў велізарныя змены: азёры не маюць першазданнай чысціні, збяднелі рыбныя багацці, пад уплывам гаспадарчай дзейнасці знішчаны дзесяткі форм рэльефа, зменены краявіды, пацярпелі лясы, балоты, іх раслінны і жывёльны свет. Націск на прыроднае асяроддзе набыў усеабдымны характар, а пачыналася ўсё з уздзеяння на асобныя часткі прыроды.

У ліку першых беззваротныя страты панеслі лясы. Велізарныя кавалкі леса старажытны чалавек спальваў для таго, каб на папялішчы вырошчваць ураджай зерневых і іншых культур. Шмат леса высякалася на будаўнічы матэрыял, ішло на продаж. Паляванне прыводзіла да знікнення шэрагу відаў жывёл. На археалагічных помніках Браслаўшчыны знойдзены косткі зубра, тура, высакароднага аленя, мядзведзя, тарпана (ляснога каня). Усе гэтыя жывёлы зніклі ў эпоху сярэднявечча. Яшчэ адзін яскравы прыклад – бабёр. Вялізныя калоніі баброў існавалі амаль на ўсіх рэках Браслаўшчыны. З-за каштоўнага футра гэты звер быў цалкам знішчаны да XIX ст. У пачатку 20-х гадоў XX ст. рэдкімі на Браслаўшчыне сталі ўсе буйныя звяры, у тым ліку дзікі і ласі.

Велізарныя страты лясам Браслаўшчыны, іх жывёльнаму свету былі нанесены ў гады першай сусветнай вайны. Праз Браслаўшчыну прайшла лінія фронта паміж расійскімі і нямецкімі войскамі, якая праіснавала без змен больш за 2 гады. У прыфрантавой паласе былі ўведзены сістэмы акопаў, агнявых кропак, будаваліся сотні бліндажоў, зямлянак. Спатрэбіліся тысячы кубоў леса для іх умацавання. Акрамя гэтага побач з прыфрантавой паласой знаходзіліся рэзервовыя пазіцыі, тылавыя ўстановы і г.д. Патрэбна была вялізная колькасць дроў. У гэты час без абмежаванняў сяклі і дзяржаўныя, і прыватныя лясы, а для палявання не патрабавалася ніякага дазволу. Прыфрантавая паласа ўвогуле сталася зонай экалагічнага бедства – зямля, начыненая жалезам асколкаў, пакрылася густой сеткай адметцін ад акопаў, хадоў, снарадных варонак, ямін ад бомбаў, агароджаў з калючага дроту. Камандуючы корпусам савецкай кавалерыі Г.Гай, які праходзіў з часцямі праз Браслаўшчыну летам 1920 г., пісаў пра нямецкія пазіцыі: *"Вось наперадзе магутныя нямецкія акопы, аб якіх так шмат пісалася ў ваенных працах... Германцы з гэтых акопаў стварылі лабірынт з дроту, бетона і жалеза... Вялікая кітайская сцяна – нішто ў параўнанні з германскімі акопамі..."* Прайшло не адно дзесяцігоддзе, пакуль зацягнуліся раны першай сусветнай вайны, але і сёння дзе-нідзе можна ўбачыць яе рубцы. На дне возера Дрысвяты захаваліся завалы з калючага дроту, якія нацягвалі па лёдзе зімовай парой.

З даўніх часоў людзі навучыліся будаваць на рэках плаціны

# ВЕСТКІ

Малады мастак Уладзімір Кандрусевіч з Мінска працягвае працаваць над галерэяй партрэтаў знакамітых дзеячоў Браслаўшчыны. Пасля партрэта Станіслава Нарбута ім быў створаны вобраз Бернарда Выслоўха, дырэктара Опсаўскай сельскагаспадарчай школы ў 30-я гады XX ст. Гэты чалавек паходзіў са знакамітага палескага роду Выслоўхаў, сярод якога было некалькі дзеячоў культуры. Бернард Выслоўх надзвычай любіў зямлю, сельскую гаспадарку, шанаваў сялянскую працу. Ён меў выдатныя арганізатарскія здольнасці. Пры ім Опсаўская школа стала лічыцца адной з лепшых у тагачаснай



Польшчы. Бернард карыстаўся велізарным аўтарытэтам сярод жыхароў Браслаўшчыны. Трагічна загінуў у засценках НКУС.

Наступны герой галерэі партрэтаў Уладзіміра Кандрусевіча – выдатны браслаўскі краязнавец Отан Гедэман.



25 снежня ў гарадскім доме культуры адбыўся калядны канцэрт, арганізаваны парафіянамі Браслаўскаг касцёла Нараджэння Маці Божай, пад кіраўніцтвам арганісткі Іны Сапун. Была прадстаўлена тэатральная пастаноўка паводле біблейскіх сюжэтаў, гучалі калядныя песні і вершы. Канцэрт выклікаў вялікую зацікаўленнасць шматлікіх гледачоў

для вадзяных млыноў. Часам гэта наносіла шкоду падпруднаму вадаёму, у якім замаруджваўся абмен вады. Плаціны млыноў на рэчцы Друйцы ўвогуле аказалі ўплыў на рэжым адразу некалькіх буйнейшых азёр Браслаўскай групы. З архіўных дакументаў вядома, што ўжо ў XVIII ст. плаціны былі прычынай падтаплення ўгоддзяў вакол азёраў Снуды, Струста і Дрывяты. На працягу XIX-пач.XX стст. сяляне, уладальнікі маёнткаў неаднойчы скардзіліся на ўладальнікаў друйскіх млыноў. Быў нават выпадак гвалтоўнага разбурэння млына барона Гана ў в.Шлапоўцы.

Друйскія млыны справакавалі найбольш значнае адмоўнае ўздзеянне чалавека на прыроду Браслаўшчыны, звязанае з паніжэннем узроўня Браслаўскіх азёр. У 1902 г. пасля чарговай скаргі на негатыўнае ўздзеяннне плацін на азёрах былі праведзены даследванні. Спецыялісты зрабілі выснову, што для таго, каб пазбавіцца падтапленняў угоддзяў, трэба панізіць узровень азёр на 1 м, паглыбіўшы рэчышча р.Друйкі. Тады да справы не дайшло. Ідэя была рэалізавана пасля першай сусветнай вайны, калі Браслаўшчына ўваходзіла ў склад Польшчы. Летам 1926 г. у Браславе было арганізавана Браслаўскае воднае таварыства, задачай якога была каардынацыя прац па паніжэнню ўзроўня азёр групы і акумуляцыя грашовых сродкаў. Праект выканалі віленскія спецыялісты. Было падлічана, што меліярацыя закране каля 10 тыс.га. Працу таварыства падтрымалі з энтузіязмам уладальнікі прыбярэжных гаспадарак. Паводле праекта прадстаяла паглыбіць рэчышча Друйкі на ўчастку паміж вёскамі Вусце і Чэрнева. Для гэтага ў Торуні спецыяльна была пабудавана землечарпалка. Працы распачаліся ў верасні 1929 г. Пасля паглыблення рэчышча вада ў сістэме стала ўбываць. Аднак падзенне ўзроўня пераўзышло праектныя адзнакі. Асабліва трывожная сітуацыя ўтварылася на возеры Дрывяты, дзе памылка склала 1 метр. Каля мастоў у верхнім цячэнні Друйкі тэрмінова ўзвялі дзве падводныя дамбы. Тым не менш, Браслаў істотна змяніў аблічча – вада адышла ад мястэчка на 200-300 метраў. Выдатны гісторык і краязнаўца Браслаўшчыны О.Гедэман (1887-1937 гг.) у адным з лістоў напісаў: "...*аднак пазней асушаныя берагі зарастуць і мясцовыя жыхары будуць у гэтых гушчарах пасвіць сваю жывёлу, як гэта ўжо неаднойчы было на раней асушаных тарфяніках. Браслаў жа ніколі не будзе Венецыяй, такой мілай для вачэй і жаданай для вандроўніка.*"



**Браслаў. Бераг возера Дрывяты у раёне сучаснай аўтастанцыі. На дальнім плане - дом Нарбутаў (старая паліклініка). Фотаздымак зроблены да меліярацыі Браслаўскіх азёраў**

Праз некалькі дзесяцігоддзяў усе асушаныя прыбярэжныя палосы сапраўды зараслі хмызняком, зніклі пясчаныя пляжы. Паласа гушчару была б і перад Браславам (як у раёне старога рыбнага заводу), закрываючы палавіну воз.Дрывяты, калі б у 50-я гады не ўдалося прыўзняць узровень возера.

У 20-я гады праводзіліся даследванні на р.Дрысвяціцы з мэтай рэгуляцыі возера Дрысвяты і некаторых іншых азёр гэтай групы. Меркавалі, што ўдасца асушыць каля 12 тыс.га. На шчасце, да рэалізацыі ідэі справа не дайшла. Магчыма, за аснову браўся праект,



**Браслаў. Паласа, якая ўтварылася пасля паніжэння ўзроўня возера Дрывяты. Паштоўка 30-х гадоў**

Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!!!

Максім Багдановіч




Фрагмент карты Еўропы К.Ваеліуса. 1566. Антверпен.

# Гартаючы старыя газеты

*г. Видзы. Новоалександровский уезд. Несколько лет тому назад г.Видзы представлял из себя какую-то клоаку грязи с искореженными мостовыми и полным отсутствием ночного освещения и был чуть не самым скучнейшим из городков и местечек Ковенской губ. Население тонуло в грязи и жило из года в год однообразной монотонной жизнью. Не имея ни театра, ни клуба жители города все свободное от занятий время проводило в сплетнях, или же «переливая из пустого в порожнее» редко выходило из дома, так как прогулка по улицам города сопряжена была с потерей галош и даже ботинок. И только в последние годы городское управление заботилось о благоустройстве города. Все улицы и переулки были очищены от куч мусора, годами на них накопленными, были исправлены мостовые, улучшено освещение города, посажен сад на одной из площадей, улицы стали местись чуть ли не ежедневно и город принял довольно опрятный и благопристойнейший вид. Кроме этого в Видзах стали устраиваться спектакли, на сбор от которых была оказана в 1907 г. денежная помощь погорельцам города и приобретены пожарные и музыкальные инструменты для добровольной пожарной дружины. На днях кружком местной интеллигенции был дан спектакль. Играли комедию-фарс «Жена с того света», сочинения Лысенко-Копыча. Спектакль прошел довольно удачно. Особенно хороши были М.Одинцов в роли Золотилова, Е.Соловьева в роли «бабы» и Т.Новиков в роли «доктора неудачника». Сбор был порядочный, вся прибыль поступила в пользу пожарной дружины.*

*Обыватель.*

Северо-Западный телеграф (Ковно) 23 жніўня 1909 г.

# ЧАЛАВЕК СУПРАЦЬ ПРЫРОДЫ

**(заканчэнне, пачатак на с.2)**

складзены расійскімі спецыялістамі яшчэ на пач. XX ст., паводле якога планавалася прыкладна 24 водаадводных і асушальных каналаў, з паніжэннем узроўня возера Дрысвяты на 0,5 сажня (сажань - 213,36 см). Сваю ролю адыгралі і негатыўныя наступствы рэгуляцыі Браслаўскай групы, аб якіх пісала прэса. Дрысвяцкія азёры зведалі ўплыў гаспадарчай дзейнасці, але ў адносна невялікіх маштабах. На возеры Богінскім (ці Угорскім) па ініцыятыве графа М.Мануцці ў другой палове XVIII ст. была ўзведзена дамба, якая падзяліла вадаём на дзве часткі. Дамба спатрэбілася, каб злучыць мястэчка Угар з маёнткам Богіна. У 1787 г. уладальнік маёнтка заключыў кантракт з архітэктарам К.Адамовічам, паводле якога дамба павінна была мець выгляд "...*прамой лініі ... па якой фурманкамі можна будзе ездзіць, шырынёй 10 локцяў (локаць - 64,869 см) з пярыламі па абодва бакі.., са сваямі, забітымі шчыльна на глыбіню ў сажань (сажань - 213,36 см), з выбрукаўкай бакоў, ... , насыпанай з пяску грунтоўна і моцна...*" Дамба амаль без змен праіснавала больш за 200 гадоў. Некалькі гадоў таму яна была пашырана пры рэканструкцыі дарогі Відзы-Богіна-Опса.

У пачатку XIX ст. з воз.Дрысвяты ў бок воз.Аболе была пракапана штучная пратока пад назвай Прорва, на якой быў пастаўлены вадзяны млын.

У 1845 г. памешчык Розен пабудаваў млын на р.Дрысвяціца, змяніўшы яе рэчышча каля вёскі Мурмішкі (Мурмішскі канал). Ад гэтага пацярпелі жыхары шэрагу вёсак.

У 1953 г. на р.Прорва, якая выцякае з воз.Дрысвяты, у сувязі з будаўніцтвам ГЭС "Дружба народаў" было пашырана рэчышча, а вусце р.Дрысвяціцы было перакрыта дамбай. З гэтага часу ўвесь атток вады з возера адбываецца праз плаціну ГЭС.

Найбольшую шкоду Дрысвяцкім азёрам нанесла будаўніцтва Ігналінскай АЭС. Возера Дрысвяты спытвае значнае цеплавое забруджванне, яго асноўная акваторыя зімой не замярзае. Пачаліся негатыўныя змены ў прыродзе возера. Забруджванне распаўсюджваецца і на шэраг іншых азёр.

Негатыўнае ўздзеянне гаспадарчай дзейнасці на прыроднае асяроддзе Браслаўшчыны ў XX ст. яшчэ патрабуе асэнсавання і дэтальнай распрацоўкі. Можна вылучыць найбольш відавочныя напрамкі такога ўздзеяння. Да істотных змен у прыродзе прывяла шырокая меліярацыя 60-80-х гадоў. Была зменена гідраграфічная сетка рэгіёна, у каналы ператварыліся дзесяткі маляўнічых рэк і рачулак. Часам меліярацыя негатыўна паўплывала на водны баланс азёр. Былі нанесены значныя старты балотам, як прыродным рэгулятарам воднага рэжыма рэгіёна, жывёльнага свету. Актыўнае ўжыванне хімічных угнаенняў, ядахімікатаў і іншых хімічных рэчываў у народнай гаспадарцы прывяло да забруджвання азёр, рэк, грунтовых вод. Для Браслаўскай азёрнай групы вялікай праблемай сталі бытавыя сцёкі. Ачышчальныя збудаванні Браслава, разлічаныя на 1,5 тыс.м$^3$ сцёкаў у суткі, фактычна прымаюць больш за 2 тыс.м$^3$. З прычыны зношанасці абсталявання часта здараюцца аварыйныя выкіды. Падлічана, што за год у азёры скідваецца 700 тон раствораных рэчываў. Возера Балойса, у якое накіроўваюцца сцёкі, зараз мае прыродны слой, насычаны серавадародам, смяротным для жывых арганізмаў. Празрыстасць у возеры знізілася з 3 м да 40 см. Забруджванне распаўсюджваецца на воз.Струста, якое адносіцца да ліку самых прыгожых у Беларусі. У апошнія дзесяцігоддзі актыўна змяняюцца ландшафты, знішчаюцца ледавіковыя формы рэльефа. Найбольш яскравымі прыкладамі з'яўляюцца: знішчэнне часткі комплекса лімнакамаў ва ўсходняй частцы Браслава (Заборныя Гумны), зруйнаванне пагорка Татарская Гара, на якім размяшчалася гарадзішча жалезнага веку, пашкоджанне пагоркаў камавага масіва пры пракладцы дарогі да аглядальнай кропкі Гара Маяк. У апошнія гады вялікай праблемай робіцца засмечванне ўрочышчаў у наваколлі Браслава. На адлегласці да некалькі кіламетраў у любым напрамку ад горада можна знайсці месцы, дзе звальваюцца бытавыя адходы: шкло, пластык, поліэтылен, жалеза. Несанкцыянаваных сметнікаў поўна і ў самім Браславе.

**Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея**

*Даволі часта на старонках нашага выдання мы закранаем пытанне аб прысутнасці вікінгаў на Браслаўшчыне. Гэта не выпадкова, бо на думку многіх даследчыкаў Браслаўскае Паазер'е мела цесныя кантакты з вікінгамі. Дадзеная акалічнасць вылучае Браслаўшчыну ў маштабах цэлай краіны. У 2002 г. у менскім выдавецтве "Энцыклапедыкс" выйшла кніга Андрэя Котлярчука "Шведы ў гісторыі й культуры беларусаў". Аўтар, дактарант універсітэту Паўднёвага Стакгольму расказвае аб беларуска-шведскіх дачыненнях у розныя гістарычныя перыяды. Мяркуем, чытачу будзе цікава пазнаёміцца з матэрыяламі, прысвечанымі двум выразным скандынаўскім цэнтрам Браслаўскага Паазер'я – Маскавічам і Пруднікам.*

*Выдавецкія навіны*




# Скандынаўскія цэнтры ў Браслаўскім Паазер'і

**Маскавічы.** Абарончым фарпостам Полацкага княства на мяжы з балтамі былі Маскавічы. Але галоўнаю мэтай існаваньня гэтага селішча ў сучасным Браслаўскім раёне быў кантроль волакаў на Браслаўскіх азёрах. Сам назоў гарадзішча – Маскавічы – сучасны. Магчыма, старое селішча мела назоў Рубеж, бо так называецца суседняя вёска.

Месьцяцца Маскавічы на грудзе плошчаю 1 га, на адлегласьці 6 км ад Браслава. Забудова селішча тыпова скандынаўская. Плян гарадзішча мае ўласьцівую паўночнай традыцыі форму кола. Таксама на карысьць гэтага сьведчыць тое, што згодна зь мілітарнай тактыкай вікінгаў лягер ніколі не будаваўся на беразе ракі, але заўсёды "хаваўся" ў глыбі азёраў. Маскавічы знаходзяцца на ўсходнім беразе возера Дзябро, праз якое толькі мінуючы складаную сыстэму Браслаўскіх азёраў можна выйсьці да рэчкі Друйка, а потым да Дзьвіны. Росквіт Маска-вічаў прыпадае на XII – пачатак XIII стст. і супадае з часам магутнасьці полацка-скандынаўскай каралеўскай дынастыі Рагвалодавічаў.

З 1976 г. у Маскавічах працуе сталая беларуская экспэдыцыя археолягаў. Сёньня багаты збор рэчаў з Маскавічаў захоўваецца ў Менскім музэі старажытна-беларускай культуры. Як і Гнёздава/Сьвінецак, Маскавічы былі вайскова-рамесьніцка-гандлёвай скандынаўскай калёніяй Вялікага Ўсходняга шляху. Пра гэта сьведчыць археалягічны матэр'ял, абсалютная бальшыня якога мае выразнае скандынаўскае паходжаньне. Гэта вараская зброя, лянцэтападобныя дзіды й стрэлы, а таксама рэчы з конскай вупражы. На вялікай колькасьці знойдзеных малюнкаў, што выкананыя на косьці і мелі магічнае значэньне, – выявы збройных вікінгаў.



**Гарадзішча Маскавічы. Фота Т.Цімошкінай**

Гандлёва-рамесьніцкая дзейнасьць насельніцтва Маскавічаў цьвердзіцца знаходкамі жалезных і бронзавых прыладаў, формачкі для ліцьця, вялікай колькасьці касьцяных вырабаў. Купецкі карабель – частая выява малюнкаў з Маскавічаў. Асаблівае значэньне ў гаспадарцы жыхароў мела рыбалка.

Відавочна скандынаўскімі маркерамі адзначаюцца каштоўнасьці, аналягі якіх знойдзеныя як у цэнтрах вараскай актыўнасьці старажытнай Беларусі (Полацак, Пруднікі, Гнёздава/Сьвінецак), гэтак і мэтраполіі – Швэцыі (Бірка, Готлянд). Удакладнім паняцьце "скандынаўскія рэчы".

Гэта рэчы, зробленыя скандынавамі-вікінгамі ў Беларусі, скандынаўскі экспарт альбо падробкі паўночных рэчаў мясцовымі, славянскімі рамесьнікамі (апошняе давесьці немагчыма). Сярод скандынаўскіх рэчаў – шпілька-амулет з косткі з заамарфнаю галоўкай (X - XI стст.). На думку Т.Пушкінай, вырабы такога кшталту належалі рамесьніку-скандынаву.

Да згаданых рэчаў належыць даволі рэдкая знаходка ўва Ўсходняй Эўропе – скандынаўская раўнаплечная фібула. Аналягічныя фібулы – даволі частая знаходка ў швэдзкай Бірцы. Таксама ўМаскавічах знойдзена іншая выразна скандынаўская рэч – чарапахападобная фібула-брошка XII ст., зробленая на высокім мастацкім узроўні. Сярод іншых вараскіх рэчаў, простыя аналягі да якіх знойдзеныя ўва адначасовых культурных стратах Біркі й Готлянду, адзначым сыгнэты, срэбную бляшку з паганскім арнамэнтам, жалезныя шыйныя грыўні, паля для гульні ў шашкі. Знаходкі жаночых скандынаўскіх рэчаў – сьведчаньне таго;што швэдзкія вікінгі жылі ў Маскавічах сем'ямі. Невялікая колькасьць рэчаў крывіцкай культуры (завушніцы й г.д.) дазваляе меркаваць, што побач са скандынавамі жыхарыў і грудок славянаў.

Але ўнікальнасьць Маскавічаў у іншым. Падчас археалягічных раскопак на гарадзішчы знойдзена каля 100 (!) рунічных надпісаў на косьці. Гэта найбуйнейшая знаходка рунічнага пісьма па-за межамі Скандынавіі. Усяго на 86 касьцёх нанесена каля 265 рунічных знакаў малодшага (старашвэдзкага) альфабэту. Сярод надпісаў розныя паганскія магічныя замовы, вараскія імёны. Дзіўна, але сэнсацыйная знаходка вялікага значэньня, якую зрабіла 20 гадоў таму беларускі археоляг Людміла Дучыц, дагэтуль амаль невядомая ў Швэцыі. Між тым матэр'ялы археалягічных дасьледаваньняў патрабуюць сур'ёзнага ўсебаковага вывучэньня, якое магчыма зрабіць толькі ў межах сумеснага беларуска-швэдзкага праекту. Знаходкі рунічных надпісаў даюць падставы гаварыць пра міжэтнічнае культурнае ўзаемадзеяньне паміж швэдамі й крывічамі.

Сярод каля 300 знакаў, якімі карысталася насельніцтва Маскавічаў, ёсьць 11 літараў кірылічнага альфабэту.

Даць веры, што крывічы маглі ведаць таемную рунічную пісьменнасьць, немагчыма. Таму кірыліцаю карысталіся акурат скандынавы – насельнікі Маскавічаў, якія згодна з полацкай традыцыяй былі фармальна хрысьціянамі ўсходняга абраду. Фармальна, бо на прыкладзе Маскавічаў мы бачым фэномэн "двувер'я". Сярод вялікай колькасьці паганскіх замоваў, малюнкаў сустракаюцца малюнкі крыжа, мэталёвыя нацельныя крыжыкі. Дарэчы, простая раўнаплечная форма крыжоў з Маскавічаў нагадвае крыжы рунічных каменьняў Уплянду.

Такім чынам, Маскавічы – добры прыклад узаемных

культурных уплываў паміж старашвэдзкім (скандынаўскім) і крывіцкім (славянскім) насельніцтвам Полацкага княства другой паловы IX – пачатку XIII стст. Пэўная адрознасьць рунаў з Маскавічаў ад клясычных швэдзкіх рунаў таго часу дазваляе меркаваць, што мы маем справу з скандынавамі, якія нарадзіліся ўжо на Полацкай зямлі. На маю думку, няма аніякіх падставаў сьцьвярджаць, што руны існавалі ў асяродзьдзі "славянізаваных нашчадкаў выхадцаў з Скандынавіі".

Заняпад Маскавічаў у першай палове – сярэдзіне XIII ст. супадае зь дзьвюма эпахальнымі падзеямі ў гісторыі Полацкага княства й Швэцыі. Па-першае, гэта параза Полацкага княства (эліту якога ў значнай ступені складалі варагі) у барацьбе зь нямецкай Рыгай за кантроль Дзьвінска-Балтыцкага шляху. Па-другое, гэта спыненьне брутальнай вайны паміж Сьвеаляндам/Svealand і Готляндам за панаваньне ў Швэцыі.

У 1212 годзе згодна з "Славянскай хронікай" Арнольда зь Любэку *"кароль Русі з Полацку Ўладзімер"* страціў кантроль над Лівоніяй і Латгаліяй на карысьць Рыгі. З старашвэдзкай "Кронікі Эрыка" ведама, што ў сярэдзіне XIII ст. скончылася грамадзянская вайна ў Швэцыі, калі Ярл Біргер злучыў усе землі і заклаў новую супольную дынастыю Фалькунгаў/Falkkungaätten. Цалкам верагодна, што каля 1250 году ўва ўмовах заняпаду міжнароднага гандлю Полацку на Дзьвіне й стабільнасьці ў Швэцыі скандынавы Маскавічаў перабраліся на гістарычную радзіму. Пагатоў шлях з Полацку да Швэцыі на ладзьдзях вікінгаў трываў усяго 5 дзён. Да таго ж у 1361 годзе данскі кароль Вальдэмар/Valdemar зруйнаваў Вісьбю/Visbu на Готляндзе – галоўнага канкурэнта Ганзы на чале зь Любэкам на Балтыцы. Гандаль паміж Готляндам і Полацкам ды Смаленскам цалкам занепаў. Гоцкія купецкія двары ў Полацку й Смаленску перайшлі да немцаў.

**Прудднікі.** Другім пасьля Маскавічаў скандынаўскім цэнтрам басэйну ракі Дзьвіна была сяліба з сучаснай назвай Прудднікі (Мёрскі раён на Віцебшчыне). Знаходзяцца Прудднікі на рацэ Вята ў адлегласьці 1,5 км ад сутокаў гэтай ракі зь Дзьвіной. Археалягічны комплекс складаецца з гарадзішча "Замак" і селішча "Прудднікі" далавах гары.

Раскопкі распачаліся ў 1984 годзе. На сёньня пошук працягваецца. Знойдзена шмат прадметаў, аналягічных цэнтрам скандынаўскай прысутнасьці ў Беларусі (Полацак, Гнёздава/Сьвінецак, Маскавічы), Расеі (Старая Ладага, Прыладажжа, Ноўгарад, Яраслаўскае Паволжа), Украіне (Кіеў, Шаставіцы). Найбліжэйшыя аналёгі рэчам з Прудднікаў дае матэр'ял у швэдзкай Бірцы. Да прыкладу, тыпова скандынаўскі вусаты рубчатаканечны сыгнэт з Прудднікаў мае просты аналяг у Бірцы. Разам з сыгнэтам у Прудніках знойдзена формачка для ліцьця сыгнэтаў, якая датуецца др. паловай X – XI стст. Важна, што скандынаўскія рэчы ў Прудніках адшуканыя ў культурных стратах X – пач. XII стст. Апошняя дата адпавядае часу прыходу швэдзкіх вікінгаў у Беларусь.

Сярод іншых скандынаўскіх рэчаў – мэталёвая скрынька для каганца, бронзавы пярсьцёнак, гірка-разнавага скандынаўскага тыпу (др. палова X – пач. XI стст.). Знойдзена шмат артэфактаў, якія належаць рэчам міжнароднага гандлю вікінгаў, перадусім гэта пацеркі з шкла бізантыйскай і ўсходняй вытворчасьці.

Тыповая для скандынаўскіх сялібаў знаходка – усходнія грошы. На сёньня ў Прудніках выяўлены 6 куфіцкіх дырхемаў (IX – пач. XI стст.), а таксама ўнікальны рымскі дынары, які быў у паўторным абарачэньні, тыповым для Скандынавіі (выспа Готлянд). Наагул, дырхемы – важны паказьнік актыўнасьці вікінгаў на Вялікім Усходнім шляху.

Параўноўваючы Беларускае й Латыскае Падзьвіньне, варта падкрэсьліць, што пераважная бальшыня вялікіх скарбаў дырхемаў знойдзеная акурат на абшарах Беларусі. Суадносіны знаходак гэткага кшталту 30:5.

Як іншыя швэдзка-скандынаўсія сялібы Ўсходняй Прыбалтыкі, Прудднікі заняпалі ў пач. XIII ст. Прычына, верагодна, тая самая – перамога Ганзы зь нямецкай Рыгі ды эканамічны й палітычны заняпад Полацкай дзяржавы. Археалягічны матэр'ял не дае падставаў сьцьвярджаць, што ў Прудніках вікінгі жылі сем'ямі. Відаць, гэта быў апорны цэнтар скандынаўскага міжнароднага гандлю на валоках Вялікага Ўсходняга шляху.

# ПРА ТРАМВАЙНУЮ ЛІНІЮ Ў БРАСЛАВЕ І КАЗІНУЮ ВАЙНУ

## (З успамінаў былога старосты Браслаўскага павета Зеліслава Янушкевіча)

У 1932 годзе мястэчка (Браслаў – рэд.) ужо мела 3 500 жыхароў. Усе вуліцы былі забрукаваны, на іх з'явіліся тратуары. За кошт павятовага самакіравання ў Браславе пабудавалі электрастанцыю. Такім чынам, мястэчка атрымала святло і энергію для новых прадпрыемстваў.

Аднойчы з інжынерам Хмялеўскім здарыўся даволі паказальны выпадак, які сведчыў аб тым, з якім даверам жыхары Браслава ставіліся да магчымасцей імклівага развіцця мястэчка і наколькі ахвотна ў гэтым бралі ўдзел. Адбылося гэта пры брукаванні адной з вуліц, невялічкай і звілістай. Пасля забрукоўкі больш важных вуліц надыйшла чарга выпраміць і забрукаваць таксама і яе. Вуліца віхляла паміж агародаў гаспадароў сяліб, якія самавольна прыхоплівалі па некалькі метраў лішняй зямлі. Пры спрамленні вуліцы трэба было зменшыць большасць дзялянак, а некаторыя агародчыкі і зусім ліквідаваць. Аднак пасыпаліся пратэсты. Не ўсіх пераканаў нават нівелір, які паставілі на вуліцы і кожны меў магчымасць зазірнуць у акуляр і пераканацца, што паказвае прыбор. Сярод местачкоўцаў у тыя часы інструмент прымалі за вышэйшы аўтарытэт. Аўтарытэт інструмента не спрацаваў спаўна: некалькі гаспадароў ніяк не згаджаліся паступіцца сваімі зямельнымі надзеламі. Тады інжынер Хмялеўскі голасна



**Браслаў. Адміністрацыйны цэнтар.
Фотаздымак А.Бейнаровіча. 30-я гады**

сказаў тэхніку, які завіхаўся каля нівеліра: “Забірай інструмент і пайшлі, бо тут няма чаго рабіць. Дарэмна староста планаваў на гэтай вуліцы праз 6 гадоў пусціць трамвай – відаць, прыдзецца праводзіць трамвайныя лініі па іншай вуліцы, паколькі тут няма жадаючых.” На наступны дзень вельмі рана перад адкрыццём сваёй канторы Хмялеўскі ўбачыў перад дарожным аддзелам групу людзей. Былі тут, напэўна, усе гаспадары з гэтай вулачкі. Прыйшлі спецыяльна, каб паведаміць, што ўсе платы вакол агародчыкаў зняты. Людзі прасілі прыбыць з інструментам і вызначыць лінію ўзвядзення новых агароджаў. Аб трамваі ніхто не ўспомніў. Ні слова пра трамвай не сказаў і Хмялеўскі, які, дарэчы, вельмі спяшаўся. Праз пару гадзін трасіроўка вуліцы была зроблена.



Браслаў. Від з Замкавай Гары. Пачатак 30-х гадоў

... Пры разбудове, добраўпарадкаванні і азеляненні Браслава мелі адзін клопат. Справа ў тым, што некаторыя мястачкоўцы, якія ўважалі пэйсы за найлепшую аздобу чалавечага твару, трымалі занадта многа козаў. Агульнавядома, што каза з'яўляецца жывёлай карыснай, якая дае малако, аднак з другога боку – яна вельмі шмат спажывае. Паводле традыцыі летнім часам козаў не кармілі. Яны павінны былі самі для сябе здабываць харчаванне. Таму козы летнім часам знішчалі ўсё, што трапляласяя на іх шляху, не грэбуючы старымі гумовымі ботамі. Ва ўсялякім выпадку кожнае пасаджанае ў Браславе дрэўца неўзабаве прымала сумны абгрызены выгляд. Гэта акалічнасць выклікала ў мяне жаданне перайсці ў наступ на двухрогіх. Аднак не хацеў дзейнічаць толькі пад уплывам эмоцый і таму параіўся з доктарам Нарбутам, якія дзеянні найлепей прадпрыняць. Нарбут выказаў меркаванне, што адзіны спосаб пазбавіцца ад коз – гэта эміграцыя з Браслава. Параіў таксама асабліва не займацца козамі, бо гадоў праз 20 можна прызвычаіцца нават да такой жывёліны. Не прыслухаўся аднак да парады Нарбута.



Браслаў. Забудова адміністрацыйнай калоніі. Архітэктар Ю.Клос. Канец 20-х гадоў

Аднаго дня на нараду ў староства запрасіў найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў яўрэйскай гміны з равінам уключна. Запрошаныя рабілі выгляд, што не ведаюць, аб якой праблеме ідзе размова. Павёў іх тады па мястэчку і месцамі паказваў на дрэўцы, што былі панішчаны козамі. Убачылі таксама некалькі рагатых “за працай”. Калі вярнуліся ў староства, запытаў, ці можам мы надалей мірыцца з казінай агрэсіяй. Адказ быў адмоўны. Паведаміў, што козы могуць застацца ў Браславе, але толькі ў хлеўшках. Толькі тады дрэўцы змогуць прыжыцца і расці, аздабляючы мястэчка. Але чаго варта каза, якую гаспадар мусіць карміць нават летам? Козы працягвалі шкодніčаць.

Прынялі пастанову, што даецца тры дні на ўладкаванне двухрогіх, а потым уласцiцеляў коз, якія псуюць дрэвы, чакае пакаранне і даволі суровае. Было прынята распараджэнне, каб яўрэйская абшчына ўвосень адсадзіла ўжо знішчаныя дрэўцы. Праз тры дні козы зніклі з вуліц і пляцаў мястэчка. Так працягвалася якіх два тыдні: потым пачаліся парушэнні. Уладальнікаў коз, якіх заставалі на месцы злачынства, неадкладна запрашалі ў староства. Адтуль бедакі выходзілі са скрыўленымі тварамі, бо штрафы, аб якіх яны даведаліся, уражвалі. Але і гэта не вырашыла праблему. Козы рабілі сваю справу, староства – сваю. Аднаго разу былі схоплены дзве казы, што рабілі шкоду, а гаспадароў іх не знайшлі. Коз адправілі на “перавыхаванне” солтысу мястэчка Хармацу, таксама яўрэю. Ён вельмі абураўся, бо клопатаў з козамі было нямала, а яго дзеці не любілі казінага малака. Бедалага і кляўся і прасіў дапамогі, але ніяк не мог знайсці ўладальнікаў шкодніц. Нарэшце ў суботу ў сінагозе ўчыніў скандал і прыгразіў, што адмовіцца ад сваёй пасады, калі ўладальнікі жывёл не знойдуцца. Калі ўласнікі коз былі ўстаноўлены, то солтыс сам адвёў іх у староства і настолькі актыўна іх абвінавачваў, што бедакі атрымалі максімальнае пакаранне.

Пасля гэтага наступіў перелом у вайне з козамі. У староства завітала дэлегацыя яўрэйскай абшчыны і папрасіла аб прымірэнні. Абшчына ўрачыста абяцала да восені ліквідаваць у Браславе коз, а перад староствам хадайнічала, каб староства не карала за абгрызеныя дрэўцы: увосень усе саджанцы будуць адноўлены – пасля ліквідацыі двухрогіх.

Што было рабіць? З неахвотай згадзіўся на такі варыянт.

Затое казіная вайна была выйграна.

*Друкуецца паводле: Z.Januszkiewicz. Moje wspomnienia. Warszawa. 1995, с.70 – 73. Пераклад з польскай мовы.*

## Выдавецкія навіны

Юзаф Далецкі з польскага горада Жэшуў даслаў у музей чарговае выданне, прысвечанае гісторыі Браслаўшчыны. Кніга Аляксандра Шэмеля "23 Браслаўскія партызанскія брыгады Арміі Краёвай ва ўспамінах кіраўнікоў і жаўнераў" (Варшава, 2002 г.) распавядае аб польскім руху супраціўлення ў часы другой сусветнай вайны на тэрыторыі Браслаўскага павета, які ў той перыяд ахопліваў і частку Мёршчыны. Аляксандр Шэмель (псеўданім "Ветр") быў шэрагоўцам брыгады. Аснову кнігі складаюць яго ўласныя ўспаміны. У пэўных месцах аўтар выкарыстоўвае ўспаміны былых сяброў па зброі. Распавядаецца аб станаўленні падпольнай дзейнасці на Браслаўшчыне польскіх патрыётаў, першых партызанскіх групах, фармаванні асобнай брыгады, яе дзейнасці на Браслаўшчыне і ў наваколлі Вільні, расфарміраванні брыгады савецкімі войскамі летам 1944 г. Напрыканцы кнігі змешчаны спіс байцоў брыгады, які складаўся па памяці ў пасляваенныя часы і таму не можа быць поўным. Спіс налічвае 286 чалавек.




Кніга А.Шэмеля папоўніла шэрагі выданняў дадзенай тэматыкі, якія ёсць у музейнай бібліятэцы: "Апошні рапарт" К.Краўзе (1997 г.), "Жыццё акаўца" Ю.Чэкана (1995 г.), "Застаўся пусты дом" У.Астроўскага (1992 г.), а таксама рукапіс успамінаў В.Жабы (1997 г.). Гэтыя матэрыялы дазваляюць пазнаёміцца з польскім пунктам гледжання на падзеі другой сусветнай вайны і істотна ўзбагачаюць нашы веды па гісторыі Браслаўшчыны.

Вядомы беларускі фотамастак, мастацкі аматар Браслава і Браслаўшчыны Сяргей Плыткевіч падрыхтаваў другі аўтарскі фотаальбом, які атрымаў назву "Беларуская экзотыка". Альбом выйшаў напрыканцы 2002 года ў выдавецтве "Рыфтур". У прадмове аўтар піша: "Экзотыка... Мы чуем гэта слова і камусьці ўяўляюцца нетры Амазоніі, камусьці – пустыня Сахара, а хтосьці бачыць непальскія або тыбецкія вяршыні. А я называю свой альбом "Беларуская экзотыка", бо ведаю, што і наша зямля для жыхароў шмат якіх замежных краін неверагодна цікавая..." Сапраўды, С.Плыткевіч здолеў паказаць нашу краіну з вельмі цікавай кропкі гледжання. Фотаздымкі ўражваюць сваёй свежасцю, навізной. Мы бачым тое, што хочацца ўбачыць увачавідкі яшчэ і яшчэ раз. У альбоме – і прырода, і помнікі, і людзі, а таксама выдатны тэкст на беларускай і ангельскай мовах. Значная частка альбома прысвечана Браслаўшчыне. Гэта і не здзіўляе, бо аўтар па-сапраўднаму закаханы ў наш край.




Альбом Сяргея Плыткевіча "Беларуская экзотыка" – цудоўны падарунак сябрам, родным, гасцям. Па пытаннях набыцця можна звяртацца ў музей.



Пасрэдніцтвам Міколы Паўловіча з Даўгаўпілса ў музей трапіла кніга Альбіны Балочкі-Чыбеле "Востраў праўды і святасці – каталіцкі касцёл на Грыве" (выдадзенай у Даўгаўпілсе на польскай мове ў 1999 г.). Аўтарка з'яўляецца віцэстаршынёй Саюза палякаў у Латвіі, а нарадзілася на Браслаўшчыне ў вёсцы Абаляны, што недалёка ад Опсы. Падрабязна разгледжана гісторыя касцёла ў былым горадзе Грыва (зараз частка Даўгаўпілса), узведзенага ў 1889 годзе, апісваецца архітэктура храма, начынне, арганізацыя працы, гаспадарка, прыводзяцца звесткі пра святароў, якія працавалі ў касцёле. Ёсць у кнізе і матэрыял, звязаны з Браслаўшчынай. У прыватнасці, у раздзеле, прысвечаным даўгаўпілскаму дому сясцёр-эўхарыстак. Аўтарка нагадвае гісторыю гэтага манаскага ордэна, які быў заснаваны Юрыем Матулевічам у Друі ў 1923 годзе. Кніга ўтрымлівае звесткі і фотаздымкі, якія датычацца дамоў сясцёр-эўхарыстак у Друі, Слабодцы, Браславе, Ідолцы.

Пазнаёміцца з кнігай нашай зямлячкі можна ў бібліятэцы музея.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»